# КРЫВІНКА

ЧЭРВЕНЬ
№9 (235)
2019 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА




ЭКАНОМІКА

## «ПЛІСЫАГРА» — БАНКРУТ

**Эканамічны суд Віцебскай вобласці распачаў вытворчасць па справе аб эканамічнай неплацежаздольнасці (банкруцтве) камунальнага сельскагаспадарчага вытворчага унітарнага прадпрыемства «ПлісыАгра» (Бешанковіцкі раён), паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў прэс-службе суда.Прадпрыемства стала першым з сямі сельгасвытворцаў Віцебскай вобласці, хто звярнуўся ў суд з заявай аб сваёй эканамічнай неплацежаздольнасці, фінансавае аздараўленне якіх з ужываннем норм указа №399 "Аб фінансавым аздараўленні сельскагаспадарчых арганізацый" Віцебскі аблвыканкам прызнаў немэтазгодным.**

У мэтах праверкі наяўнасці падстаў для адкрыцця конкурснага вядзення і забеспячэння захаванасці маёмасці суд усталяваў ахоўны перыяд на адзін месяц. Часовым упраўляючым прызначаны Сяргей Кустаў.

Згодна з матэрыяламі справы прадпрыемства завінавацілася крэдыторам больш за Br4,8 млн, пры гэтым кошт маёмасці ацэньваецца прыкладна ў Br 7 млн. Па выніках першага квартала 2019 года "ПлісыАгра" спрацавалі з чыстымі стратамі ў памеры Br16 тыс., Яго фінансавыя абавязацельствы перавышаюць ў 82 разы дэбіторскую запазычанасць .

КСПУП "ПлісыАгра" створана ў кастрычніку 2010 года шляхам пераўтварэння сельгаскааператыва "Плісы" і далучэння да яго КУПСП "Сініцы". Прадпрыемства спецыялізуецца на вырошчванні збожжавых і зернебабовых культур, буйной рагатай жывёлы, а таксама аптовым гандлі мясам і мяснымі прадуктамі. Па дадзеных на сярэдзіну траўня, колькасць работнікаў прадпрыемства складала 84 чалавекі.

**БелТА**

АХОВА ЗДАРОЎЯ

## НОВЫ ГАЛОЎНЫ ЎРАЧ

**У аўторак 4-га чэрвеня калектыву Бешанковіцкай цэнтральнай раённай бальніцы быў прадстаўлены новы галоўны ўрач.**

Ягоная вакансія з'явілася яшчэ ў студзені 2019 года. І вось толькі ў чэрвені вакантную пасаду заняла Святлана Рошчына, якая і выконвала ўвесь гэты час ягоныя абавязкі.

Да таго, як яна ачоліла службу аховы здароўя раёна, Святлана Аляксандраўна з'яўлялася намеснікам галоўнага лекара ЦРБ па медыцынскай частцы.

Раней яна працавала участковым лекарам-тэрапеўтам паліклінікі райбальніцы, была загадчыцай тэрапеўтычнага аддзялення ўстановы аховы здароўя.

**А.Тутэйшы**



### ****

*Ведаеш, зноўку дажджы,*
*і для нас не сюрпрыз,*
*што у надвор'я няма*
*пастаянства раскладу.*
*Мабыць, мы вечна зважаем*
*на чыйсьці капрыз,*
*бо на зямлі тут у нас*
*аніякага ладу.*

*Ну і няхай,*
*гэта ўсё неяк перажыву –*
*дождж, навальніцы*
*і іншага роду навалы.*
*Толькі б ня зьніклі аблокі,*
*што ў небе плывуць*
*толькі б ўсмешка*
*у сонца на твары блукала.*

*Ёсць яшчэ выйсьце,*
*банальная рэч – парасон,*
*штука надзейная*
*для шпацыроўкі штовечар.*
*Зрэшты, і дожджык бывае,*
*як казачны сон,*
*калі цябе блізкі хтосьці*
*ахінае за плечы.*

***Г.Станкевіч***

КУЛЬТУРА

## ЦІ З'ЯВІЦЦА Ў БЕШАНКОВІЧАХ ПОМНІК ЛЬВУ САПЕГУ?

**У Лідзе неўзабаве з'явіцца помнік Гедыміну, у Дзятлаве — Канстанціну Астрожскаму, у Слоніме — Льву Сапегу. Усе яны імкнуліся да росквіту сваіх гарадоў. Два праекты прайшлі неабходныя ўзгадненні і знаходзяцца ў стадыі рэалізацыі. Манументы Гедыміну і Сапегу будуць устаноўлены сёлета, помнік Канстанціну Астрожскаму — налета.**

**Гедымін-вершнік**

Велічная постаць ужо існуе ў натуральную велічыню, але пакуль з гліны. Канчаткова помнік будзе адліты з бронзы на Мінскім мастацкім камбінаце.

— Усяго было прадстаўлена каля 30 эскізаў, якія выстаўляліся ў галерэі Лідскага замка, — расказалі іх аўтары — прафесійныя скульптары з Гродна, Ліды, Мінска, Віцебска — у аддзеле культуры Лідскага райвыканкама.

Пры выбары канчатковага варыянта ўлічвалася некалькі крытэрыяў. Помнік павінен адпавядаць гістарычнай эпосе — XIV стагоддзю. Таму звярталася ўвага на адзенне князя, сімвалы яго праўлення, конскія даспехі. Адным з крытэрыяў была ўмова, каб скульптура арганічна глядзелася ў гарадскім асяроддзі. А месца для яе вызначана на скрыжаванні вуліц Грунвальдскай і Замкавай, дзе Лідскі замак суседнічае з гарадской архітэктурай.

Ідэю помніка Гедыміну прапанаваў яшчэ 20 гадоў таму Валерый Сліўкін, старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея. Ён спадзяваўся, што яго мара здзейсніцца ў найлепшым выпадку да 700-годдзя Ліды ў 2023 годзе.

— Гэта важна, што гістарычныя асобы «ажываюць» у манументах. А Гедымін не толькі заснавальнік замка і нашага горада, ён яшчэ і вялікі літоўскі князь, — кажа Валерый Сліўкін.

Пераможцам конкурсу стаў эскіз помніка, які прадставілі скульптары Вольга Нячай і Сяргей Аганаў, дарэчы, ураджэнец Ліды.

— Над канчатковым варыянтам мы працавалі даволі доўга, бо даводзілася ляпіць кожную мадэль, каб іх можна было параўнаць, — расказаў карэспандэнту «Лідскай газеты» Сяргей Аганаў. — Кожны эскіз, а іх было з дзясятак, узгадняўся з экспертным саветам, і так доўжылася да той пары, пакуль мадэль не зацвердзілі канчаткова. Затым яна была вылеплена з гліны ў натуральную велічыню…

Некалькі месяцаў спатрэбілася на тое, каб зляпіць з гліны 6-метровую скульптуру. Зараз пачынаецца этап адліўкі помніка з бронзы, які плануецца завяршыць у жніўні. Потым скульптуру вагой у тры тоны паднімуць кранам і ўсталююць на пастамент. Ён будзе абліцаваны бардова-шэрым гранітам пад колер Лідскага замка. Камень прывезлі з Ладажскага радовішча.

Урачыстае адкрыццё помніка адбудзецца 7 верасня падчас святкавання ў Лідзе Дня горада. Манумент вялікаму князю Гедыміну абяцае стаць яшчэ адной візітоўкай горада і цікавым турыстычным аб'ектам.

— Гэта даніна павагі заснавальніку горада, дзяржаўнаму дзеячу, які змог аб'яднаць народы розных культур і моў Вялікага Княства Літоўскага і з'явіўся яркім прыкладам мудрага правіцеля-патрыёта, сімвалам адзінства і справядлівасці, — падкрэсліў

намеснік старшыні Лідскага райвыканкама Віктар Пранюк.

**Сапега са скруткам Статута**

Такая скульптура з'явіцца ў Слоніме. Сёлета, 1 верасня, у горадзе адбудзецца значная падзея — тут пройдзе Дзень беларускай пісьменнасці. Слонім стане 26-й сталіцай традыцыйнага рэспубліканскага свята. І адным з ключавых момантаў будзе адкрыццё помніка Льву Сапегу. Выдатны дзяржаўны дзеяч, віленскі ваявода і вялікі гетман Вялікага Княства Літоўскага — адзін з аўтараў Статута ВКЛ і прыхільнік беларускай мовы, — ён стаў правіць горадам у другой палове XVI стагоддзя. Па яго просьбе Слонім у 1591 годзе атрымаў магдэбургскае права і герб — льва, які трымае залатую стралу.

Постаць старажытнага правіцеля Слоніма вырашылі ўвасобіць у бронзе. Не абышлося без конкурснага адбору, у якім удзельнічалі каля дзесяці работ. Перамог калектыў аўтараў у складзе Івана Міско, Уладзіміра Піпіна, Сяргея Логвіна. Гістарычная постаць, па іх задумцы, стаіць у поўны рост, а ў руках трымае скрутак Статута і булаву — сімвал улады.

Дарэчы, Іван Міско — ураджэнец Слонімшчыны, ён з'яўляецца ганаровым грамадзянінам райцэнтра. Гэта будзе яго першы твор для сваіх землякоў.

Як стала вядома, зараз вядзецца работа над каркасам, які потым будзе адліты з бронзы. Гэта робіцца часткамі, затым іх зварваюць, загладжваюць швы… Што датычыцца пастамента, гэтую работу вядзе Слонімская гарадская ЖКГ, якая выступае заказчыкам па будаўніцтве і ўстаноўцы манумента. У гаспадарцы адзначылі, што на дадзеным этапе ідзе распрацоўка праектна-каштарыснай дакументацыі, і нават паведамілі канкрэтны тэрмін выканання работ — сярэдзіна жніўня.

Згодна з канчатковым вынікам, «рост» Сапегі будзе дасягаць 3,2 метра. А вышыня пастамента — каля метра.

У Беларусі бронзавы манумент Льву Сапегу ўстаноўлены таксама ў Лепелі Віцебскай вобласці, а ў вёсцы Астроўна Бешанковіцкага раёна, дзе нарадзіўся знакаміты дзяржаўны дзеяч, ёсць памятны знак у яго гонар.

**У праекце — Канстанцін Астрожскі...**

Сёння ў вобласці з'яўляецца ўсё больш помнікаў славутым старажытным асобам. Летась каля замкаў у Гродне з'явіўся каменны князь Давыд Гарадзенскі, які заваяваў славу сваімі подзвігамі ў барацьбе з крыжакамі.

У наступным годзе з'явіцца помнік заснавальніку Дзятлава — Канстанціну Астрожскаму. Ужо абвешчаны конкурс эскізных праектаў.

Упершыню Дзятлава згадваецца ў летапісе 1498 года, калі на падораных гетману Астрожскаму землях было заснавана мястэчка. Першым будынкам стала драўляная крэпасць, якая праіснавала 200 гадоў і адыграла значную ролю ў гісторыі горада. Нездарма яе воблік быў прыняты за аснову сучаснага герба горада.

Вяртаецца старажытны воблік у Навагрудак. Тут устаноўлены памятны знак «Уязная брама». Нядаўна, на пачатку мая, каля яе з'явілася скульптура рыцара — абаронцы горада. Яе аўтар — вядомы беларускі скульптар Генадзь Буралкін. Стварэннем манумента займаўся калектыў у складзе дзесяці чалавек. І гэта яшчэ не канчатковы выгляд брамы. На ёй з'явяцца 12 барэльефаў з розных гістарычных перыядаў Навагрудка. На мясцовым заводзе металавырабаў вядзецца работа па коўцы варотаў. Брама набудзе свой канчатковы выгляд у канцы верасня, а 5 кастрычніка, падчас святкавання 975-годдзя Навагрудка, адбудзецца ўрачыстае адкрыццё кампазіцыі.

**Маргарыта Ушкевіч**
**"Звязда"**

БЯСПЕКА НА ВАДЗЕ

# БЕШАНКОЎЦЫ! УСЕ НА БАЛЬНІЧНЫЯ САЖАЛКІ!

**На сайце Віцебскага абласнога камітэту прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя з'явілася інфармацыя пра месцы (пляжы) масавага адпачынку ў Віцебскай вобласці.**

Рашэннем бешанковіцкага РВК ад 14.03.2019 № 184 у Бешанковіцкім раёне да летняга сезону падрыхтавалі толькі адно месца адпачынку - сажалкі каля бальніцы. Там ёсць абсталяваная стаянка для аўтамабіляў (бальнічная), грамадская прыбіральня і два кантэйнеры для смецця.

Нагадаем, што летась у нашым раёне было два месцы адпачынку. Па нейкіх прычынах Паўазерскае возера больш такім не з'яўляецца. Ці то там згніла прыбіральня, ці то скралі кантэйнеры для смецця, але факт застаецца фактам, што на гэтым возеры пляжа больш няма.

Няма месцаў масавага адпачынку і на іншых азёрах нашага раёна. І гэта сведчыць зусім не пра тое, што бешанкоўцы не будуць нідзе плаваць. Якраз наадварот. Плаваць і адпачываць яны будуць, але ж толькі ў неабсталяваных для гэтага месцах. І, значыць, трагічных выпадкаў на вадзе не пазбегнеш.

Дарэчы, у некаторых раёнах Віцебскай вобласці сітуацыя крыху іншая, чым у Бешанковіцкім раёне. Так у Верхнядзвінскім раёне абсталявалі 10 месцаў для адпачынку, у Расонскім і Глыбоцкім па 9, Докшыцкім - 7, Мёрскім і Полацкім - па 5, Шумілінскім - 4.

**А Тутэйшы**

***P.S.*** *Калі ў Вас дазваляе фантазія, то ўявіце сабе, дзе на бальнічнай аўтастаянцы памесціцца хаця б 100 аўтамабіляў, на якіх прыедуць сюды людзі з усяго раёна на адпачынак.*

ЗДАРЭННЕ

# ТРАГЕДЫЯ НА ВАДЗЕ

**17-га чэрвеня на возеры Белым ў Бешанковіцкім раёне адбылася трагедыя: там падчас купання патанула 2-гадовае дзіця. Яно было ў вадзе з маці. Пазней стала вядома: да таго моманту ў крыві мамы было больш за 3 праміле алкаголю.**

Па дадзеных следства, днём 17-га чэрвеня на возера Белае прыбыла кампанія маладых людзей, сярод якіх была 30-гадовая жыхарка Віцебска з двума дзецьмі. У нейкі момант жанчына, якая знаходзілася ў стане алкагольнага ап'янення (3,6 праміле), адправілася з двухгадовым сынам у вадаём.

Па словах відавочцаў, яна аддалілася на адлегласць больш за 50 метраў ад берага, дзіця пачало тануць. Маці не распачала спробаў да выратавання хлопчыка і пакінула возера.

Мужчына, які стаў відавочцам здарэння, дастаў дзіцяня з вады. Яму была аказана неадкладная медыцынская дапамога, аднак выратаваць дзіцяня не ўдалося.

У дачыненні да жыхаркі Віцебска ўзбуджаная крымінальная справа па ч. 1 арт. 144 КК (Прычыненне смерці па неасцярожнасці).

Жанчына затрыманая.

**М.Васільеў па матэрыялах СК**

РАСКОПКІ – 2019

# У ПОШУКАХ ПАЎНОЧНАГА ЗОЛАТА

**Бадай, усе чулі пра славуты шлях з варагаў у грэкі, адзін з асноўных маршрутаў якога ішоў па Дзвіне і Дняпры ды злучаў Балтыйскі і Чарнаморска-Міжземнаморскі рэгіёны ў рамантычныя часы вікінгаў і Полацкага княства. А ці ведаеце вы, што падобны шлях існаваў за тысячы гадоў да яго, калі моры з рэкамі мелі зусім іншыя назвы?**

Было гэта ў 3-м — 2-м тысячагоддзях да нараджэння Хрыста. Асноўным таварам, які рухаўся з поўдня ў Прыбалтыйскі рэгіён былі соль і, пазней, медныя ды бронзавыя вырабы. А ў абмен, далёка, ажно да Старажытнага Егіпту і першых гарадоў Урадлівага Паўмесяца, плыло паўночнае золата, сонечны камень — бурштын.

Што такое бурштын? Гэта выкапнёвая акамянелая смала, узростам у дзясяткі мільёнаў гадоў, якая патрапіла ў адмысловыя ўмовы і захавалася да нашага часу ў выглядзе мядова-жоўтых, памаранчавых, чырвона-памаранчавых каменьчыкаў памерам ад некалькіх міліметраў да гігантаў у 50 сантыметраў. Існуе шмат яго радовішчаў па свеце, у тым ліку на нашым Палессі, аднак у старажытнасці чалавеку быў дасяжны толькі балтыйскі бурштын. Бо ў Балтыйскім моры склалася ўнікальная сітуацыя — гіганцкія донныя напластаванні, якія ўтрымліваюць бурштын, паступова размываліся, і каштоўны камень выносіўся хвалямі на бераг, дзе яго збіралі першабытныя людзі і перапрацоўвалі ва ўпрыгожанні.

І пры чым тут тарфяніковыя паселішчы? А ўсё пры тым жа. Хоць бурштын і называюць каменем, ён — арганічнага паходжання. І ў звыклых мінеральных глебах з часам паступова раскладаецца, рассыпаецца і знікае бясследна, як яго ніколі тут і не было. А ў культурных адкладах тарфяніковых паселішчаў ён захоўваецца ў законсерваваным стане, і выглядае акурат як тады, калі яго выкарыстоўвалі.

Самыя раннія бурштынавыя вырабы на паселішчах Крывінскага мікрарэгіёна датуюцца першай паловай 3-га тысячагоддзя да н.э. і выкарыстоўваліся носьбітамі ўсвяцкай археалагічнай культуры. Большасць з іх уяўлялі сабой сплюшчаныя фрагменты каменю, уся апрацоўка якіх зводзілася да свідравання франтальных адтуліны для мацавання і, месцамі, невялікіх падправак граняў. У невялікай колькасці сустракаліся адмысловыя плоска-сферычныя гузікі-упрыгожанні.

З сярэдзіны 3-га тысячагоддзя і да сярэдзіны 2-га тысячагоддзя на Крывінскіх паселішчах, ужо ў носьбітаў паўночнабеларускай археалагічнай культуры, з'яўляюцца дасканалыя бурштынавыя ўпрыгожванні розных геаметрычных формаў. Сярод іх разнастайныя падвескі, пацеркі, пранізкі, гузікі. Некаторыя з іх дадаткова аздобленыя наразным арнаментам.

Што цікава, на помніку Крывінскага тарфяніка ўсе бурштынавыя вырабы патрапілі ўжо ў гатовым выглядзе з поўначы, па Дзвіне, з тэрыторыі сучаснай Латвіі. Ні аднаго фрагмента неапрацаванага сонечнага каменю да сённяшняга выяўлена не было. Аднак пашкоджаныя вырабы шматразова рамантаваліся, што пацвярджае іхнюю каштоўнасць для тагачасных жыхароў.

На сённяшні дзень на паселішчах Крывінскага тарфяніка выяўлена больш 70-і бурштынавых вырабаў, з іх 31 быў выяўлены ў 2008 — 2018 гадах валанцёрамі асаевецкай экспедыцыі. Дарэчы, існуе ўжо нават экзэспедыцыйна-валанцёрскае павер'е, што бурштын знаходзяць толькі новыя ўдзельнікі, якія яшчэ ні разу не капалі на Асаўцы.

З 15 ліпеня па 4 жніўня 2019 года плануецца чарговая экспедыцыя па даследаванню гэтага паселішча.

Запрашаюцца ахвотныя на валанцёрскі ўдзел у раскопках, шчыра вітаецца фінансавая дапамога для падтрымання валанцёрскай часткі экспедыцыі (сродкі збіраюцца на Талацэ).

**Максім Чарняўскі кіраўнік экспедыцыі**

ЭКАЛОГІЯ

# БУДЗЕ КАТАСТРОФА

**Забруджваньне водных рэсурсаў становіцца ўсё больш вострай праблемай для Беларусі. Каб абмеркаваць экалягічныя праблемы Дзьвіны 25-га траўня ў навукова-тэхнічнай бібліятэцы Віцебска сабраліся разам экспэрты, выкладчыкі і студэнты ВДУ імя Машэрава, настаўнікі з рэгіёнаў, актывісты-эколягі і журналісты.**

Удзельнікі круглага стала "Экалягічныя праблемы басэйна Заходняй Дзьвіны" акрэсьлілі асноўныя праблемы ракі, шукалі спосабы іх вырашэньня, а таксама ініцыявалі стварэньне сеткі мясцовых ахоўнікаў.

**Эколягі супраць будаўніцтва ГЭС**

На пачатку імпрэзы з прэзэнтацый выступіла Натальля Парэчына – каардынатарка праекту Цэнтру экалягічных рашэньняў. Значную частку выступу экспэрт прысьвяціла Віцебскай ГЭС.

"ГЭС не зьяўляецца экалягічна чыстай крыніцай энэргіі. З той простай прычыны, што вельмі шмат экалягічных праблемаў узьнікае пры будаўніцтве – ад затапленьня ложа вадасховішча да зьніжэньня біяразнастайнасьці ў рацэ ніжэй па цячэньні", – казала Натальля.

Гэтак, паводле яе інфармацыі, будаўніцтва і функцыянаваньне Віцебскай і Полацкай ГЭС прывялі да шматлікіх праблемаў, а менавіта:

Зьнізілася ўтрыманьне кіслароду ў вадзе, што можа прывесьці да зьнікненьня такіх відаў рыб, як галец, ялец, рыбец, быстранка, галавень, жэрах.

Падчас будаўніцтва станцыяў была праведзеная ачыстка берагоў ад расьліннасьці па даўжыні рэчышча на працягу больш за 100 кілямэтраў, што прывяло да эрозіі берагоў. Праектам было прадугледжанае бетанаваньне берагоў і ўзьвядзеньне ахоўных збудаваньняў, але зроблена было далёка на ўсё.

Былі затопленыя далямітавыя кар'еры ў Рубе. Таксама – затопленыя некаторыя населеныя пункты.

Рака зарастае багавіньнем і забалочваецца.

Між тым, улады плянуюць пабудаваць яшчэ станцыі ў Бешанковічах і Верхнядзьвінску. Што праўда, будаўніцтва праз недахоп фінансаваньня пакуль не пачалося. Натальля выказала надзею, што грошы так і ня будуць знойдзеныя, бо будаўніцтва яшчэ двух гідраэлектрастанцыяў на рацэ прывядуць да экалягічнай катастрофы ў рэгіёне.

**Праблемы са сьцёкамі і водаачысткай**

Акрамя гідраэлектрастанцый ёсьць у Дзьвіны і іншыя ворагі. Гэта найперш прамысловыя і камунальныя прадпрыемствы, якія праводзяць недастатковую ачыстку сьцёкавых вод.

"На жаль, па некаторых парамэтрах у нас наогул нічога ня чысьціцца, а па іншых – чысьціцца недастаткова. Праблемаў вельмі шмат. І тут, куды ні ткні, усюды праблемы. І, натуральна, купацца ў рацэ ніжэй гораду нельга", – паведаміла Натальля.

Яна таксама адзначыла кепскі стан гарадзкіх ліўневых каналізацыяў, асабліва ў Полацку і Віцебску. Так, толькі ў нашым горадзе каля 100 ліўнёвак маюць патрэбу ў рамонце.

Небясьпечныя і сьцёкі біягенных рэчываў з сельскагаспадарчых палёў. У басэйне ракі распаханасьць зямель складае 62,8%, на жывёлагадоўчых фэрмах налічваецца 530 000 галоваў буйной рагатай жывёлы, 445 000 сьвіней і 6 395 000 – птушкі….

**Пра басэйнавыя саветы**

Юрыст грамадзкага аб'яднаньня "Экадом" Рыгор Фёдараў выступіў з дакладам "Права грамадзкасьці на ўдзел у працы басэйнавага савету". Выступоўца азнаёміў удзельнікаў імпрэзы з правіламі фармаваньня і функцыянаваньня басэйнавага савету ў нашай краіне, распавёў аб Орхускай канвэнцыі.

Аказваецца, так званыя "басэйнавыя саветы" ў нашай краіне носяць чыста фармальны характар. Гэтак, зь 15 прызначаных сябраў – толькі адзін прадстаўнік грамадзкасьці. Усе астатнія – чыноўнікі, ды і зьбіраюцца яны нерэгулярна. А савет па Дзьвіне нават яшчэ ня створаны. Прынятыя саветамі рашэньні носяць рэкамэндацыйны характар, таму ўплываць на рашэньні экалягічных праблем яны ня могуць.

**Няма доступу да інфармацыі**

Прадстаўнік «Кааліцыі Чыстай Балтыкі» з Калінінграду кандыдат біялягічных навук Дзьмітрый Філіпенка выступіў з дакладам "Грамадзкі экалягічны маніторынг як інструмэнт басэйнавага кіраваньня рэк Балтыйскага мора", у якім дзяліўся досьведам расійскіх калегаў.

Як адзначылі ўдзельнікі круглага стала, вялікай праблемай зьяўляецца ня толькі ўласна забруджваньне ракі, але і адсутнасьць у грамадзян свабоднага доступу да інфармацыі. Знайсьці, напрыклад, анонс аб грамадзкіх абмеркаваньнях справаздачы аб ацэнцы ўздзеяньня на навакольнае асяродзьдзе плянаванага будаўніцтва таго ці іншага аб'екту бывае практычна немагчыма. І робіцца гэта спэцыяльна, каб не прыцягваць увагі грамадзтва да будаўніцтва экалягічна брудных аб'ектаў – да такой высновы прыйшлі ўдзельнікі сустрэчы.

**Уладзімер Бляўскі "Віцебская вясна"**

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# КАЛІ НЕ ЁН, ДЫК ХТО Ж?

**Важная асаблівасць «беларускай мадэлі» — адсутнасць электаральных рэйтынгаў у вышэйшых службовых асобаў дзяржавы.**




Сярод маіх калегаў і знаёмых няма прыхільнікаў расійскага прэзідэнта Уладзіміра Пуціна. Таксама ў маім блізкім коле няма і тых, хто аддаваў бы перавагу аб'яднанню з Расіяй, а не ўступленню ў Еўрасаюз.

Аднак, калі меркаваць па шматгадовых даследаваннях НІСЭПД, прадстаўнікі еўрапейскага выбару заўсёды знаходзіліся ў Беларусі ў меншасці. Падчас апошняга апытання (лета 2016 года) незалежныя сацыёлагі зафіксавалі наступнае размеркаванне геапалітычных прыхільнасцяў беларусаў: аб'яднанне з Расіяй — 42%, уступленне ў Еўрасаюз — 34%, не здолелі адказаць — 24%.

Варта звярнуць увагу на высокі працэнт рэспандэнтаў, што не далі адказу. Здзіўляцца гэтаму не даводзіцца: усё, што звязана са знешняй палітыкай, ляжыць па-за межамі штодзённага вопыту простага чалавека. Таму свайго меркавання наконт геапалітыкі ў яго няма і быць не можа.

Аднак усё мяняецца, калі пераходзіць на асобы. Прыводжу размеркаванне адказаў на пытанне: «Як Вы ставіцеся да прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна?» (чэрвень 2012 года): станоўча — 48%, абыякава — 35%, адмоўна — 13%, не здолелі адказаць — 4%.

Упалітыцы футболе, як вядома, разбіраюцца ўсе, але не ў любой палітыцы, а ў рэдукаванай да асабістых адносін. Як кажа мая сястра, чалавек з вышэйшай адукацыяй, якая ўсё сваё свядомае жыццё пражыла ў Ленінградзе-Пецярбургу: «Пры алкаголіку Ельцыне мы ледзь зводзілі канцы з канцамі, а Пуцін — малайчына, таму і жыццё наладзілася».

Пры Ельцыне (1991–1999) сярэдняя цана нафты складала 16,5 долара за барэль. Пры Пуціне яна тры гады запар трымалася вышэй за 110 долараў за барэль. Акрамя таго, большая частка прэзідэнцтва Ельцына прыйшлася на час, калі савецкага парадку ўжо не існавала, а новы яшчэ не сфармаваўся. Але спрабаваць растлумачыць такія «тонкасці» маёй сястры — значыць марнаваць час.

**Не выключэнне, а правіла**

Калі я сутыкаюся па-за сваім блізкім колам з прыхільнікамі расійскага прэзідэнта, што гатовыя абараняць свайго куміра з пенай у рота, задаю ім простае пытанне-тэст: «А чым жа так вызначыўся Пуцін да таго, як стаў прэзідэнтам?» Нескладана здагадацца, што ўцямнага адказу на гэтае пытанне мне яшчэ ні разу не далі.

Заходжу на асабісты сайт нацыянальнага лідара Расіі. У раздзеле «Біяграфія» чытаю: «Пасля вяртання з Германіі ў Ленінград Уладзімір Пуцін з 1990 года займаў пасаду памочніка рэктара Ленінградскага дзяржуніверсітэта па міжнародных пытаннях». Іншымі словамі, ён быў звольнены з органаў, ці я нешта няправільна разумею?

Адпаведных каментараў у інтэрнэце — воз і вазочак. Аднак інтэрнэт — гэта памыйніца, як справядліва ахарактарызаваў сусветнае павуцінне ў свой час адзіны беларускі палітык (АП). Так што я не рэкамендаваў бы спяшацца з аднязначнымі высновамі.

«Хто быў нікім, той стане ўсім». Як паказала гісторыя, гэта поўнае аптымізму прароцтва аўтара словаў «Інтэрнацыяналу» Эжэна Пацье ніякага дачынення да працоўнага класу не мае. Іншая справа — наменклатура. Таму выпадак з Пуціным — не выключэнне, а правіла. З АП, між іншым, у пачатку 1990-х адбылася аналагічная гісторыя.

Усім нам неаднаразова даводзілася сутыкацца з пытаннем: «Калі не ён, дык хто?» Пытанне гэта надзвычай папулярнае на постсавецкай прасторы. Пошукам адказу на яго, як правіла, займаюцца ў апазіцыйным асяродку. Шукаюць — і не знаходзяць.

Незалежная сацыялогія марнасць пошукаў пацвярджае. Напрыклад, у чэрвені 2016 года электаральны рэйтынг АП склаў 30%, а ў яго бліжэйшых апанентаў Караткевіч і Статкевіча — 5%, у Мілінкевіча і Някляева — 3%. Далей ідзе яшчэ шэраг вядомых у вузкіх апазіцыйных колах прозвішчаў са значэннем рэйтынгу ніжэй статыстычнай памылкі.

Усё звыкла. Усё заканамерна. Але ў гэтым спісе няма ніводнага прозвішча прадстаўнікоў улады. Ні кіраўніка ўрада, ні старшыні парламента!

Пры такой сацыялогіі не павінна здзіўляць актуальнасць пытання: «Калі не ён, дык хто?» Але сацыялогія толькі фіксуе рэальнасць, яна яе не фарміруе.

Пошукі крыніц феномену адзінага палітыка прапаную правесці з дапамогай дырэктара Лявада-цэнтра Льва Гудкова: «У параўнанні з рэйтынгам папулярнасці палітыкаў у дэмакратычных краінах, дзе існуе палітычная і эканамічная канкурэнцыя і ёсць свабодная прэса, адкрытая крытыка ўлады. Мы маем справу зусім з іншай з'явай — гэта арганізаваны кансенсус, які трымаецца на вельмі магутнай машыне прапаганды (вылучана. — рэд.)».

**Ленін думае пра нас**

На якой падставе футбольныя фанаты лічаць Ліянэля Месі вялікім футбалістам? Безумоўна, прэса не абыходзіць яго бокам, ды і рэкламадаўцы да яго добразычлівыя. Але следства не варта блытаць з прычынай. Месі, перш за ўсё, футбаліст, які забівае ў кожным сезоне больш за 30 галоў. Хочаце стаць другім Месі і зарабляць звыш 100 мільёнаў долараў на год? Няма праблем. Пачынайце рэгулярна забіваць лепшым камандам свету.

АП на беларускім палітычным полі гуляе ў ганаровай адзіноце. Ён забівае мячы ў браму, у якой няма брамніка. Таму і актуальнае пытанне: «Калі не ён, дык хто?» Між тым, спецыялістаў, здольных забіваць у пустую браму, знойдзецца ў Беларусі калі і не мільён, то ўжо сотня тысяч гарантавана. Але якімі б ні былі іх асабістыя якасці, шанцаў быць дапушчанымі паганяць мяч па палітычным полі ў іх няма. Не для таго чвэрць стагоддзя таму АП «падняў уладу з бруду».

Каб азнаёміцца са спецыфікай працы машыны беларускай прапаганды, далёка хадзіць не трэба. Прапаганда — на тое і прапаганда, каб быць публічнай. Ненавязлівасць не з'яўляецца яе моцнай бокам.

Возьмем які-небудзь выпадкова абраны прэс-рэліз з сайта АП. Напрыклад, за 21 траўня 2019 года — ён прысвечаны нарадзе па актуальных пытаннях эканомікі. Сапраўды, больш значную тэму адшукаць складана. Нездарма ж АП пастаянна нагадвае нам, што падмуркам паспяховай дзяржавы з'яўляецца моцная эканоміка.

І якую інфармацыю пра стан беларускай эканомікі мы можам даведацца з прэс-рэлізу? Абсалютна ніякую. Прыводжу тыповы фрагмент дакумента: «Хацелася б пачуць ад прэм'ер-міністра і віцэ-прэм'ераў, якая сітуацыя ў нас з экспартам. Натуральна, найважнейшае пытанне — валавы ўнутраны прадукт. Які ў нас рух у гэтым кірунку?»

Інтрыгуючы пачатак, пагадзіцеся. Праблема, аднак, палягае ў тым, што нічога, акрамя пытанняў АП, тэкст прэс-рэлізу не ўтрымлівае. Пытанні ёсць, а адказаў на іх няма. Такі вось своеасаблівы рэмейк маналогу сатырыка Міхаіла Жванецкага «Сход на лікёра-гарэлачным заводзе» з яго знакамітым рэфрэнам: «Шкада, што мы так і не здолелі паслухаць начальніка транспартнага цэху».

Для чаго ж тады такі «змястоўны» дакумент быў размешчаны на галоўным дзяржаўным сайце? У чым яго сэнс? З якой мэтай падобныя дакументы потым тыражуюць дзяржаўныя СМІ?

А сэнс якраз і палягае ў тым, каб пераканаць чытачоў у наяўнасці ў краіне адзінага палітыка, які ўвесь час трымае руку на пульсе краіны і якому ёсць справа да ўсяго. Карацей, «Ленін думае пра нас».

Гэтай жа мэце служаць рэгулярныя наведванні АП прамысловых і сельскагаспадарчых прадпрыемстваў…

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы Час"**

ЛУКАШЭНКА — 25

# КУДЫ ЁН НАС ЗАВЁЎ?

**Нагода для святкавання ёсць, але святочных усмешак бракуе. Кіраўнікі краінаў, якія ўваходзяць у Еўразійскі эканамічны саюз, адзначылі ў Нур-Султане пяць гадоў з моманту падпісання Дамовы аб ЕАЭС. Для беларускага кіраўніка гэта не адзіная гадавіна сёлета. У снежні мінае 20 гадоў з моманту падпісання Дамовы аб стварэнні Саюзнай дзяржавы, а ўжо ў ліпені — 25 гадоў з таго дня, як Лукашэнка зрабіўся прэзідэнтам Беларусі.**

Ці ёсць што святкаваць, высвятляла Вольга Жарнасек.

Пяць гадоў для кожнага хаўрусу — дастаткова тэрмін, каб зрабіць першыя падсумаванні і падзяліцца назіраннямі. «Еўразійскі эканамічны саюз мае аўтарытэт на міжнароднай арэне. Часам мы чуем, чытаем дый самыя кажам, што з намі нібыта не хочуць супрацоўнічаць. Проста зайздросцяць», — запэўнівае Аляксандр Лукашэнка.

Надзвычай пазітыўная ацэнка. Але літаральна ў сакавіку падчас «Вялікай размовы» кіраўнік Беларусі ацэньваў ЕАЭС зусім інакш: «Я вялікіх надзеяў не маю ў плане нашага Еўразійскага эканамічнага саюзу».

Ці штосьці змянілася за гэты час? Наўрад ці. Розныя, а часам супрацьлеглыя меркаванні для розных аўдыторыяў — даўно і добра вядомы стыль вонкавай палітыкі Аляксандра Лукашэнкі. Што да рэальнай ацэнкі ЕАЭС, то эксперты не маюць сумневаў.

Валер Карбалевіч, палітычны аглядальнік: «Еўразійскі эканамічны саюз — гэта, паводле праекту Расеі, праграма геапалітычная. Сэнс яе ў тым, каб Расея магла ўплываць на постсавецкую прастору, трымаць яе пад кантролем».

Сапраўдным хаўрусам цяжка назваць і гэтак званую Саюзную дзяржаву Расеі ды Беларусі, якая сёлета адзначае 20-гадовы юбілей. «Гэта быў 1999 год, калі ў Расеі прэзідэнтам быў стары, хворы, непапулярны Ельцын, а ў Беларусі тады на пад'ёме быў малады, энергічны, харызматычны Лукашэнка», — згадвае Валер Карбалевіч.

Планы Лукашэнкі ачоліць новае ўтварэнне перакрэсліў таксама малады і не менш энергічны пераемнік Барыса Ельцына. З таго часу Беларусь пад кіраўніцтвам Лукашэнкі атрымала безліч эканамічных прэферэнцыяў, што прывяло да істотнай залежнасці беларускай эканомікі ад Крамля.

На думку Карбалевіча, Расея, якая была доўгі час галоўным спонсарам і галоўнаю крыніцаю выжывання беларускага рэжыму, сёння становіцца крыніцаю пэўных праблемаў. Праблемаў і пэўных пагрозаў.

Пагроза стала відавочнаю пасля анексіі Крыму Расеяй і пачатку ўзброенага канфлікту на Данбасе, інсціраванага Масквою. З'явіліся пытанні, ці Беларусь стане наступнаю.

Аляксандр Сыцін, палітолаг Цэнтру палітычных дасведаванняў Паўночнай і Усходняй Еўропы, Расея: «З гледзішча Расеі, Беларусь — гэта не асобны народ і не асобная тэрыторыя. А Саюзная дзяржава — гэта так, нейкая праформа. Таму пры найменшай пагрозе, спробе Беларусі нейкім чынам адысці да Захаду, магчымыя абсалютна любыя сцэнары. Можа, акрамя рэальных танкаў на Менск».

Тым не менш расейская агрэсія ва Украіне змусіла шукаць Аляксандра Лукашэнку іншыя пункты апоры ў вонкавай палітыцы. Майстар балансавання ўзяў на сябе ролю міратворца ў расейска-ўкраінскім канфлікце і ўгаварыў бакі правесці ў Менску мірныя перамовы.с

Дзмітрый Грамакоў, сацыёлаг, кіраўнік даследніцкіх праектаў украінскага цэнтру «РАНД»: «Так, мы ўдзячныя Лукашэнку за наданне гэтай пляцоўкі і за тыя ўмовы, каб гэтыя сустрэчы ў прынцыпе адбыліся. Але сказаць, што ён адыгрывае нейкую ролю, — гэта дастаткова ўмоўна».

Так ці інакш, роля міратворца прынесла кіраўніку Беларусі канкрэтныя дывідэнды. У 2015 годзе Еўразвяз прыпыніў санкцыі супраць Лукашэнкі, а праз год канчаткова выдаліў яго са свайго чорнага спісу і пачаў запрашаць на Захад. 1 верасня кіраўніка Беларусі чакаюць у Польшчы, дзе адбудуцца ўрачыстасці памяці пра пачатак Другое сусветнае вайны.

*(скарочана)*

**"Белсат"**
**https://belsat.eu**

ПАЧАТАК ВАЙНЫ

# ЯКІ КАВАЛАК ВАЙНЫ ЗЬНІК У САВЕЦКІ ЧАС

**22 чэрвеня 1941 года нямецкія войскі напалі на СССР. І хаця заходні пункт савецкай мяжы і мяжы БССР знаходзіўся тады за 150 кілямэтраў ад Берасьця, менавіта з абароны крэпасьці савецкая прапаганда зрабіла адзін з галоўных мітаў вайны. Чаму прапаганда намагалася схаваць і забыць падзеі першага дня вайны ў самай заходняй кропцы БССР?**

Пра белыя плямы пачатку савецка-нямецкай вайны Свабодзе расказаў гісторык Андрэй Катлярчук, дацэнт унівэрсытэту Сэдэртарна ў Швэцыі.

**Пралік Сталіна**

Калі мы паглядзім на мапу БССР чэрвеня 1941 году, то пабачым, што там ёсьць клін — Беластоцкі выступ. У той час Беластоцкая вобласьць была заходняй мяжой БССР. Яе далучылі да Беларусі ў 1939 годзе на моцы пакту Молатава-Рыбэнтропа. І гэта быў пралік Сталіна. Бо вялікая мяжа зь Нямеччынай стварала тое, што савецкая прапаганда называла — «вераломны і нечаканы напад». Калі б быў калідор у выглядзе іншай краіны, то такі напад быў бы немагчымы.

**Вайна не была сюрпрызам для СССР**

22 чэрвеня ў Беластоцкай вобласьці знаходзіліся элітныя савецкія войскі, фактычна найлепшыя часткі 10-й арміі, у тым ліку 6-га мэханізаванага корпусу. Тысяча танкаў, адборныя часткі, якія чакалі нападу. 20 чэрвеня начальнік памежных войскаў усяго СССР Сакалоў нечакана прыехаў у райцэнтар Ломжа на самай акраіне Беластоцкай вобаласьці. Немцы дэманстратыўна вывелі тэхніку, гарматы, і паставілі іх насупраць пагранічных заставаў. Ужо ў той жа дзень памежная служба была пераведзеная на «ўзмоцнены варыянт нясеньня службы».

**Татальная катастрофа саветаў**

Вайна пачалася ў Аўгуставе і ў Ломжы. У ноч, калі немцы напалі, там адбылася татальная катастрофа. Большасьць памежнікаў загінула ў першых масіўных баях. Камандзір 87-га пагранатраду ў Ломжы Гурый Здорскі напісаў у мэмуарах, што разам са сваёй групай памежнікаў выйшаў з акружэньня ажно пад Рагачовам. У яго было 2 тысячы салдатаў і зь іх загінула 1600. Паніка, адступленьне, больш за 300 тысяч палонных на магістралі ад Беластоку да Слоніма. Была парушаная ўся сувязь, а трэба памятаць, што гэта быў цэнтар вайсковага кіраваньня. Паводле нямецкіх дадзеных, было пакінута больш за 3 тысячы танкаў, абсалютна непашкоджаных, 245 самалётаў.

**Разьня на Беласточчыне вырашыла кампанію 1941 году**

На пытаньне, чаму праз тыдзень немцы былі ўжо ў Менску, а 10 ліпеня — пад Смаленскам, адказ адзін — Беластоцкі выступ. Многія гісторыкі лічаць, што прычынай фіяска савецкіх войскаў стаў памылковы сцэнар Генэральнага штабу. Савецкія вайскаводы чакалі галоўнага ўдару на Ўкраіне, а ён прыпаў на Беласток. Кіеў змагаўся і быў захоплены ўвосень 1941-га, а ў Менску, трэцім найважнейшым цэнтры СССР, немцы былі ўжо праз тыдзень. Не пасьпела адбыцца эвакуацыя, і наступствы гэтага былі драматычныя. Тое, што адбылося там у чэрвені, і вырашыла кампанію 1941 году.

**Вінаватых — расстраляць**

Кіраўніцтва Заходняга фронту было 2 ліпеня выклікана Сталіным у Маскву. Генэрал Дзьмітрый Паўлаў і ўсе яго́ныя намесьнікі былі расстраляныя па артыкулах за «нядбайнасьць» і «невыкананьне сваіх службовых абавязкаў». Пасьля сьмерці Сталіна яны былі рэабілітаваныя.

**Забыць, бо ня ўпісваецца ў канцэпцыю**

Падзеі на Беласточчыне пасьля вайны замоўчваліся, бо псавалі гераічны міт вайны, дзе было месца толькі перамогам. Калі б пра гэта казалі ў савецкія часы, то давялося б тлумачыць, як так, што тэрыторыя СССР і БССР, якая да вайны была наша, ужо ня наша. Савецкая канцэпцыя «чужой зямлі ня трэба, сваёй не аддамо» тут не спрацоўвала. Таму гэты кавалак вайны цалкам зьнік у савецкі час.

**Дзьмітры Гурневіч**
**"Радыё Свабода"**

ІІ ЕЎРАПЕЙСКІЯ ГУЛЬНІ

# ПАГОНЯ, ВІТАЎТ, ШАГАЛ, БЫКАЎ

**На стадыёне «Дынама» ў Мінску прайшло афіцыйнае адкрыццё ІІ Еўрапейскіх гульняў. Маштабнае шоу было паклікане адлюстраваць беларускія традыцыі, каштоўнасці і гісторыю.**



Таму на сцэну выходзілі танцоры, стылізаваныя пад персанажаў батлейкі. Ажылі касцюмы Бакста і карціны Шагала — усе гэтыя мілыя закаханыя і казлы. Была свая цэльнасць у гэтай эклектыцы: усё пачалося з песні Пахмутавай «Молодость моя, Белоруссия», а пасля былі і беларускія этна-спевы, і Ганна Нятрэбка з Ігарам Крутым.

Жарэс Алфёраў зьмяняў Вітаўта і рыцараў Вялікага Княства з калюмнамі і Пагонямі.

У тэлевізійнай версіі Пагоня засталася амаль незаўважнай.

Былі Усяслаў Полацкі і праслаўленыя нядаўняй знаходкай шлемы, Леў Сапега са Статутам ВКЛ і інжынер Казімір Семяновіч, Ефрасіння Полацкая і авіяканструктар Сухой.

Усё гэта суправаджалася дэкламацыяй складаных вершаў — у тым ліку «Спадчыны» Купалы, «Усе мы разам ляцім да зор» Багдановіча, а таксама Адама Міцкевіча.

Адным з рэжысёраў цырымоніі адкрыцця стаў беларус Аляксандр Вавілаў. Ён падрыхтаваў аснову, з якой пазней працавалі расіяне з кампаніі кампазітара Ігара Крутога, якая выйграла тэндар. Цырымонія складалася з сямі эпізодаў, кожны з якіх быў прысвечаны сюжэту з гісторыі і культуры Беларусі: Купаллю, Сярэднявеччу, сучаснасці і гэтак далей.

А тэлевядоўца з гонарам расказаў, што ў часы Вітаўта наша дзяржава прасціралася ад мора да мора і ад Буга да Угры.

Ушанавалі і старажытны род Радзівілаў.

Спявалі беларускія музычныя зоркі — ад «Тройцы» да оперных зорак Сільчукова і Ляўчук.

Варта адзначыць, што ўвогуле адкрыццё атрымалася вельмі беларусацэнтрычным, разлічаным на ўзмацненне гонару за Беларусь.

Нібы фінальный кропкай стала ўвасобленае на ручніку выказванне Васіля Быкава з «Сотнікава»: «Адзіная рэальная каштоўнасць у чалавека на свеце — яго жыццё».

З гэтым гуманістычным матывам перагукаліся словы Аляксандра Лукашэнкі ў яго́ным выступе перад тым як запалілі Агонь гульняў. Ён заклікаў, каб дзяржавы вызначылі самую магутную выключна на спартовых арэнах.

Прэзідэнт Еўрапейскіх алімпійскіх камітэтаў Янез Качыянчыч выступіў па-беларуску, чым сарваў авацыю трыбун. А вынеслі алімпійскі сцяг і запалілі агонь — у выглядзе Папараць-кветкі — вялікія беларускія спартоўцы мінулых гадоў.

**Зміцер Панкавец**
**Сяргей Гезгала**

БЕЛАРУСЬ – РАСІЯ

# ЛУКАШЕНКО В КАПКАНЕ

**Неужели Кремль почти дожал? Подходы Москвы и Минска в вопросах интеграции сблизились на 90%, заявил российский министр экономического развития Максим Орешкин. Несколько недель назад белорусский премьер Сергей Румас говорил, что так называемое углубление интеграции согласовано на 70%.**

Орешкин подчеркивает, что обсуждение идет строго в рамках союзного договора, подписанного в 1999 году. Но в том-то и фишка, что тогда молодой президент Александр Лукашенко подмахнул документ, реализация которого грозила и сегодня грозит Беларуси потерей суверенитета, пишет политолог Александр Класковский в своей колонке на «Белсате».

Злые языки поговаривают, что амбициозный «славянский витязь» Лукашенко метил на место старого больного Бориса Ельцина. Но место занял цепкий Владимир Путин, который стал форсировать вопрос элегантного поглощения Беларуси под маркой «братского единения».

Так Беларусь оказалась в капкане вместе с вождем. Правда, первые атаки Кремля в минувшем десятилетии Лукашенко отбил. Всеми правдами и неправдами отбоярился от единой валюты, заявив журналистам, что за зарплатой в Кремль ездить не собирается…

**Две ошибки белорусского вождя**

Первая ошибка Лукашенко была в том, что он понадеялся обхитрить империю, затеяв с ней игру в «братскую интеграцию». Но эпоха «нефти за поцелуи» закончилась. Империя решила встать с колен, показала свою хватку на Грузии, Украине, а теперь вот взяла в оборот и Минск.

Вторая ошибка Лукашенко в том, что он надеется как-то разрулить ситуацию с Путиным, не проводя реформ и не подключая народ.

Но без трансформации страшно привязанная к ресурсам и рынку России белорусская экономика будет слабеть, а значит, будет таять и ресурс сопротивления кремлевскому нажиму. Без сильного политического класса и мощного, национально сознательного гражданского общества не будет духовных гарантий независимости.

Однако правящий Беларусью четверть века Лукашенко очевидно боится дать отмашку на реформы и открутить гайки в общественно-политической сфере. Ведь могут зашататься устои личной власти. Так что — тащить и не пущать. Назначая на прошлой неделе нового министра внутренних дел, глава государства дал красноречивый наказ: «Тот, кто заслуживает по башке или по морде, — должен получить».

Страны Балтии на рубеже 1990-х использовали исторический шанс, чтобы оторваться от империи. Да, рай земной не построили, но зарплаты там в разы выше белорусских, и шантажировать вентилем эти государства ЕС и НАТО Москва уже не может.

В белорусском же случае петля надежна, и Кремль не торопится. Не грозит танками и зелеными человечками. Он издевательски вежлив: а помните бумаженцию, которую подписали на излете прошлого тысячелетия? Ну так что, будем сближаться или строить из себя оскорбленную невинность?

Не бывает «братской интеграции» с империей. Дай мизинчик — откусит руку.

*(скарочана)*

**Александр Класковский**
**https://belaruspartisan.by**

Заснавальнік і рэдактар: Станкевіч Георгій Мікалаевіч

Адрас рэдакцыі: Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

Падпісана да друку 28.06.2019 у 16.10
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.